1927

КНІЖКА 4-АЯ

1927 г.

# ЗАРАНКА



# Лісты у „Заранку“

## За што і як мы выпісалі „Заранку.

Перад Вялікаднем мы ўбачылі „Заранку“ (2 ю кніжку), каторая была прыслана, як пробны нумар. Прачытаўшы некаторыя стацейкі, якія нам вельмі спадабаліся, мы захацелі сабе яе выпісаць. Грошы ў нас ня было. У вербную нядзелю мы сьпісалі і навучыліся на памяць „васолы“ і „Хрыстос“, а на першы дзень Вялікадня пашлі па валачобным. Пяяць нам удалося; крыху пахадзілі, а парадачна яек сабралі. На другі дзень палавіну падзялілі, а палавіну ў дваіх занясьлі і прадалі.

На трецьці дзень напісалі пераказ і паслалі грошы на „Заранку“ ў ліку 2 зл. „Заранку“ выпісалі на аднаго.

**Дзеці засьцену Жалюбчылі,**
**Парпліскай гм., Дзісьненскага пав.**

---

## Ліст Маладога Дзядка да беларускіх дзетак.

**Мілыя дзеткі!**

Дачакаўся-ткі я тае хвілінкі, калі ізноў магу да Вас прамовіць некалькі слоў. Вельмі я ўсьцешыўся, што некаторыя з Вас, як Зоня, Стэфусь і іншыя, Войцікавы, ужо падалі свае працы ў „Заранку“. Тыя апавяданьні, якія ўжо надрукаваны, вельмі мне спадабаліся. Спадзяюся, што любыя дзеткі і далей будуць добра працаваць. Працуйце, вучыцеся, а калі небудзь за гэта Вам усім лепш будзе жыць. У гэтай кніжцы я падаў штоколечы Вам да чытаньня. Вось, калі хто мае ахвоту, дык хай напіша мне: ці спадабалася, ці не? Я буду дзякаваць і таму, які напіша да мяне, таксама дам адказ у паштовай скрынцы „Заранкі“.

Паважаная Рэдактарка згадзілася прымаць лісты да мяне ў скрынку, за што Ёй складаю на гэтым мейсцы падзяку.

Дык чакаю, мо‘ часам, хто і чыркне да мяне колькі слоўцаў.

Бывайце здаровенькія! Да пабачаньня ў наступнай кніжцы.

Кахаючы Вас **Малады Дзядок.**

29 траўня 1927 г.

# НАША ПОШТА

**„Марусі з Антокалю“.** — З Тваіх круцігаловак зьмяшчаю пакуль што, першую. Прысылай усялякія; што падыйдзе зьмяшчу з ахвотай.

**Янку Патаповічу.** Першай загадкі незьмяшчаю, бо ў ёй няма нічога цікавага, звычайнае множаньне. Дзьве другія йдуць у гэтай кніжцы. Прысылай больш. — Мо, яшчэ хто небудзь з дзяцей Вашай вёскі прышле што ў „Заранку“.

**Дзецям засьценку Жалюбчыкі.** Ваш цікавы ліст: „За што і як мы выпісалі „Заранку“ — друкуем у гэтай кніжцы. Няхай і другія дзеці ведаюць, як Вы сабе добра парадзілі. Загадкі і жарты добрыя. Будуць друкавацца. Прысылайце больш.

**Мікалаю Дылько.** З радасьцю бачым, што ты, маючы толькі 10 гадоў і ходзячы ў польскую школу, так добра пішэш па беларуску. „Заранку“ з 4-й кніжкі высылаем. Што Табе ў ёй найбольш падабаецца?

**Сяргею Атрахімовічу.** „Заранка разьвіваецца добра, падпішчыкаў і маладзенькіх чытачоў мае што раз болей. Мяняць кожны месяц рысунак на вокладцы, „Заранка“, пакульшто не мае магчымасьці, бо гэта вельмі дарага каштуе. Мяняць будзем кожны квартал. Вось і пяпер даем новы рысунак. Напішы як Табе падабаецца. Што датычыцца апавяданьня з жыцьця расьлін, то дамо гэтакае ў чарговай кніжцы.

**Лідзе Зьмітровіч.** Круцігалоўку і казку ў свой час зьмесьцім.

**Юлісю Зьмітруку.** „Млынок“ з часам зьмесьцім. Што тычыцца казкі — пабачым. Шмат іх дзеці прысылаюць, дзеля гэтага выбіраем самыя лепшыя, як па зьместу, так і па апрацоўцы.

**Лідзе Атрахімовіч.** Казкі не зьмесьцім, бо яна вельмі ўсім знаёмая, ужо друкавалася ў зборніку казак. Круцігалоўка з папраўкамі пойдзе.

---

Рэдактар Выдавец **Л. Войцікава.** Друк. Я. Левіна, Вільня.




# „Дзеці у гаі“.

(пераклаў **Малады Дзядок**)

Двое дзяцей, брат і сястра пашлі ў школу. Яны мусілі прахадзіць каля вельмі прыгожага, сьцянiстага гаю. На дарозе было горача і пылка, а ў гаі прахалодна і весела.

„Ці ведаеш, што?“ сказаў брат сястры: „у школу яшчэ рана. У школе цяпер і душна, і сумна, а ў гаі пэўна вельмі весела. Паслухай, як пяюць там птушкі; а вавёрак, вавёрак колькі скача па галінах! Ці не пайсьці нам туды, сястрыца?“

Сястры падабалася прапанова брата. Дзеці кінулі лемантары ў траву, узяліся за рукі і зьніклі паміж зялёных кустоў, пад кучаравымі бярозкамі. У гаі, сапраўды, было весела і шумна. Птушкі перапырхівалі бязупынна, пялі на розныя лады; вавёркі скакалі па гал.нках; казюлькі сумяціліся ў траве.

Перадусім дзеці ўбачылі залатога жучка. „Пагуляй з намі“, сказалі дзеці жучку.

„З прыемнасьцяй-бы“, адказаў жук: „але я ня маю часу:—я мушу дастаць сабе полудзень“.

— „Пагуляй з намі“, — сказалі дзеці жоўтай калматай пчолцы.

— „Няма калі мне гуляць з вамі", адказвала пчолка: „мне трэба зьбіраць мёд".

„А ці ты не пагуляеш з намі?" спыталіся дзеці ў мурашкі. Але мурашца ня было часу іх слухаць: яна цягнула саломку ў тры разы большую за сябе і сьпяшалася будаваць свой цікавы дамок.



Дзеці зьвярнуліся - былі да вавёркі, прапануючы ёй, таксама, пагуляць з імі; але вавёрка махнула пушыстым хвастом і адказала, што яна мусіць зрабіць запас гарэхаў на зіму. Галуб сказаў: „я раблю гняздо для сваіх маленькіх дзетак." Шэранькі зайчык бег да ручая памыць сваю мордачку. Белай красцы паземкі таксама ня было часу займацца дзяцьмі; яна карысталася пекнай пагодай і сьпяшалася прыгатаваць на час сваю сочнаю, смашную ягаду.

Дзяцём зрабілася сумна, што ўсе заняты сваёю працаю і ніхто ня хоча гуляць з імі. Яны падбеглі да ручая. Булькаючы па камянёх, бег ручай праз гай.



„Табе пэўна ўжо няма чаго рабіць?" сказалі яму дзеці: „пагуляйжа з намі".

—„Як! мне няма чаго рабіць?" працурчэў злосна ручай: „ах, вы, лянівыя дзеці! Паглядзеце на мяне: я працую ўдзень і ўначы, і ня маю нават мінуты спакою. Ці-ж ня я паю людзей і жывёлу? Хто-ж апрача мяне, мые бялізну, кручыць колёсы млыноў, носіць чаўны і гасіць пажары? О, ў мяне толькі працы, што галава круціцца!" дадаў ручай і пачаў цурчэць па каменьнях.

Дзяцём зрабілася яшчэ сумней, і яны падумалі, што ім ляпей было-б сьпярша пайсці ў школу, а пасьля ўжо, ідучы з школы, зайсьці ў гай. Але ў гэты самы час хлопчык прыкмеціў на зялёнай галінцы невялічкую, прыгожую малінаў

ку. Яна сядзела, здавалася, вельмі спакойна і ад няма чаго рабіць пасьвістывала вясёлую песянку.

„Гэй, ты, вясёлы пяюн!“ крыкнуў хлопчык малінаўца: „табе ўжо, здаецца, дык зусім няма чаго рабіць; пагуляй-жа з намі“.

„Як“, прасьвішчэла пакрыўджаная малінаўка „мне няма чаго рабіць? Ды ці ж я праз цэлы дзень не лавіла мушак, каб накарміць маіх маленькіх! Я так змарылася, што не магу падняць скрыльляў; ды й цяпер укалыхваю песенькаю сваіх дзетак. А вы што рабілі сёньня, маленькія гультаі? У школу не пашлі, нічога не навучыліся, бегаеце па гаі, ды яшчэ перашкаджаеце другім працаваць. Ідзеце восъ ляпей, куды вас выправілі, і памятайце, што толькі таму прыемна супачыць і пагуляць, хто напрацаваўся і зрабіў усё, што мусіў зрабіць.“



Дзеці засароміліся: яны пашлі ў школу, і хоць прышлі позна, але вучыліся старанна.

## Сёмуха.

Абудзіў нас шчэбят птушак —
У лісьцях сьлівак, яблын, грушак —
Эх! чароўны сьвет!

Гляньце: поле зелянее,
Паласамі лён сінее,
Пахам дыша сад цяністы —
Зяляньню адзет.

Хаты прыбраны ў бярозкі —
А падворак і дарожкі
Жоўценькім пяском...

Уходзіць Сёмуха ў дзьверы,
Мілы пах нясуць аеры
На Зялёны Сьвяткі ў хаці —
Вось наш родны дом!

**Галіяш Леўчык.**

Ст. Грынкевіч.

# Капля вады.

Сонка ня спыняла ані на часіну сваө падарожы. Мо' праўда ня так хутка яно вандравала як узімку, ды аднача людзям за работаю здавалася, што яно ўсё шпарчэй і шпарчэй ляцела да стоці. Толькі што прышлі здаецца жнеі з хаты, а ўжо смага на іх напала. Кожны глядзіць за вадою. Добра калі хто прынёс з вёскі, хаця і так няма вялікае бяды. Недалёка тая лагчына з крынічкаю дзе вада вясёленька булькаціць. Аведваюць яе ўсә з кубкамі, збанкамі, а не дык проста схіляюцца, каб пачэрпаць рукамі ці проста губамі. Вада смашная, ах як смашная, калі ў роце засьмачне, што вось быццам і дыхнуць немагчыма а адна, дзьве каплі яе даюць мілую вогкасьць.

Скуль бярэцца тая вада, пытаюцца людзі? Цячэ і цячэ без канца. Гэткая малюсенечкая крыніцка ня больш мо' вядра, а адначасна нявычарэпная, і цячэ ўлетку і ўвосень і ўзімку лёду на ёй нямашака, а вясною дык з крынічкі цэлая рэчка. Сама вада добра ня ведала, чаму гэта яе так шмат і цёк ейны ня спыняецца. Бо вада тамака на погляд толькі простая. Нам толькі так прыдаецца. Каб глянуць лепш, дык убачылі-б мы тамака бязьлікае мноства паасобных капляў, якія з сабою часта зусім не знаёмыя. Вось быццам грамада людзей на кірмашу ці ў сьвятыні. Паглядзеў-бы хто на тую граммаду здалёк, дык і бачыў-бы вялікі натоўп, не адцемляючы паасобных адзінак. Ня бачыў-бы, што хаця яны ўсе людзі, ды не аднолькавыя, што кожны інакшы. Дык вось і ў вадзе, у тым бязьлікім мностве капляў, якіх мы толькі ня бачылі. Адны вялікія, адны маленькія і ў адных гэткі мінэралы разжыжаны, а ў другіх накшы. А родам скуль у іх толькі няма! Найбольш сваіх, што нідзе далёка ня былі, толькі і ведаюць нашую зямельку. А ёсьць падарожніцы, што былі ўсюды, дзе толькі здумаць.

Вось цяпер у кубак дзяўчыны лучыла адна капля з Амэрыкі, што была прыехаўшы з хмараю, а побач з ею з нейкая яшчэ замөрскае старонкі. Адцеміць нат' ўсіх трудна, вельмі пераблытаны яны з сабою. Ідуць яны чужыя з сваімі, знаёмыя з незнаёмымі, усе згодныя, без калатні, бо

ведаюць, што трэба памагчы людзям. Што гэта было-б, каб вось жнеям ды ня даць цяпер вады?! Памлелі-б да званьня і работу кінулі-б. Дык плоймы капляў ахвотна на выперадкі адныя з аднымі імкнуцца, каб ім трапіць да людзей, каб асьвяжыць іх ад смагі.

Сёньня аднача нешта накш у крыніцы. Калатня якая' ці што? Ці мо' тамака сход ці веча якое ідзе? Хто іх ведае, што такое!?

Раніцаю ўсенька было добра, складна, як заўсёды. І цяпер пры беразе вада цячэ роўненька, а толькі ў куточку клыкчыцца. Пакажацца з зямлі яна, дык частка капляў цячэ ў рэчку, а крышку астаецца ў тым куточку, Некаторыя пастаяць, пастаяць, маўляў, услухаюцца на прамову нечыю, а потым пакідаюць куток і адныя зважна, памаленку, аглядаючыся назад, а другія дык хуценька цякуць, каб лучыць або людзям у пачыньня або, каб падарожнічаць у рэчцы. Шмат якія астаюцца ў куце і ўсе больш клыкчацца, ды так што пырскаючы, паасобныя каплі падаюць аж на мурог, што быў побач. Жнеі глядзяць зумеўшыся на гэткія пракуды крыніцы. Ніколі ня бачылі яны яе гэткаю. Пытаюцца адныя ў адных. Няўсьцям ім было тое, што чаўплося ў вадзе.

А ў ёй сапраўды быў бунт. У тым куточку было веча. А ўсенька дзеля аднае маленечкае каплі' Капля тая нікому не вядомая, паказаўшыся з зямлі, не пашла за другімі, а пачала крычаць па свайму. Вядома, калі хто крычыць, дык заўсёды хочучы ці ня хочучы суседзі і суседкі ўслухаюцца, а не дык і здалёк падхопяцца паталопіцца. Гэтак і цяпер. Пачатна адна, потым больш капляў спынілася і ўслухаюцца на тую, што яна казаціме. А яна галосіць.

— Сёстранкі! родненькія! пакіньце мяне тутака, не хачу я людзям да жывата! Я жыць хачу! я-ж маладзенькая, сьвету зусім яшчэ ня бачыла. Хай тыя йдуць, што жылі даволі, перад якімі няма ўжо ніякіх тайніцаў!— — —

І добра, што яна асталася ў куточку, бо якга быў прышоўшы хлапец, ды пачэрпаў паўнюсэнькае вядро. Бяз ніякіх сумліваў, што лучыла-б тамака. Спалохалася вельмі аж зашчаміла ей мову. Пачула, што пашоў той хлапец,

зглeдзіла, што колькасьць капляў у крыніцы ізноў пабольшала, дык ізноў давай гаварыць.

— Вас клічу, маладых! Я, думаю, не адна, дык адгукнецеся, калі хто ня хоча ўміраць без пары! Гляньце ўверх, ці бачыце тое хараство над намі? Адтуль пах нейкі йдзе, там сонка грэе, а там бачыце, нейкія жывёлінкі гуляюць. Ці-ж мы цічога ня бачыўшы, дурныя зусім, пойдзем сьледам за дзедам?! Адказвайце, я вас пытаю! Сьмела стойце, у нас права, за намі нашая дужасьць маладая!

— Усе мы думаем аднолькава з табою! — чутныя галасы, а з часіны на часіны іх большае. Яны, моладзь, становяцца грамадою і стаяць, а старыя цякуць бязупынна.

— Калі вы аднолькава думаеце са мною, дык прасіцімем супольна сонка, каб яно ад сяньняшняга дня дало нам накшую работу, чымся толькі спыняць смагу людзей. Хай яно сьвет нам пакажа, каб мы ведалі прынамся, што жылі а не мадзелі.

— Праўда твая! Трэ да сонка зьвярнуцца!....

— Дурныя вы маладыя, як пагляну я на вас — кажа адна з вяковых ужо сяброўак — вось дурныя, што дальбог! больш немагчыма! Ну і чаго вам хочацца, кажу я? І што вы ведаеце аб будучыне вашай, што хочаце накшае долі, чымся яна прад намі, на спраквечным нашым шляху, сьледам за дзедам!

— Мы хочам жыць, бачыць сьвет! — гулкі гоман маладых чутны ад'сюль, бо ўжо іх было поўна ад ручва рэчкі да таго куточка, дзе была пачынальніца бунту.

Усенька сваім чарадом, хай лепш будзе! Ніхто ня ведае, дзе ейнае шчасьце, а дзе бяздольле, дык не замінай ты нам, пусьці, каб абставіны і прыродныя ўмовы вырашылі аб будучыне кожнае з нас! — хоча перабіць разважны голас нейкае, відавочна навытаранае ў жыцьцёвых досьледах сяброўкі. Сяньня мы патрэбныя вельмі людзям, дык нельга рабіць ніякіх раструсак, каб бяда якая не пасудошыла сьвету!

— Мы хочам сьвету паглянуць, ня трэба нам тваіх паглядаў, поўных кастырства! Мы хочам сонка, хай яно прыдзе, адведае нас і разсудзіць, дзе праўда.

(Працяг будзе).

# На імяніны.

Што за зьява? што за дзіва?
Лес і поле, луг і ніва
Зазвінелі ціхім тонам,
Ні то песьняй—ні то звонам.

Ціхі голас зычна льлецца
Уверх па горах, ўніз па рэчцы..
Льлецца песьня — ідуць пары.,.
Што за дзіва?... хіба чары?

Йдзе валошка з шыпшынаю,
Там бяроза з калінаю,
Далей ўзяўшысь за лісточкі
Йдуць стакроткі, моў вяночкі...

А за імі брат—сястрычка
І зязюлька невялічка,
Мак чырвоны, драсён белы
І званчыкаў букет цэлы

Йдуць дарогай, йдуць мяжою,
Усе сьпяваюць грамадою;
Усе пахнуць, ўсе прыбраны
Як ў казцы зачараваный.

Аж сонейка ў небі стала
І „кудыж вы“—запытала,
„На вясельле, ці хрысьціны?“
— Не, на Толя імяніны...

**Мама.**

М. Антаноўскі

# Апавяданьні цёткі Пары.

З расейскага пераклаў А. Б.

## VI. Пара, вада, і лёд.

Загаварыўшыся з цёткай Парай, Алеся і незаўважыла, як у яе ўцякла вада з імбрычка.

— А, божачка! дык дзе-ж твая вада?— крыкнуў Янка, уткнуўшы свой курносы насок у імбрычак.

Алеся падбегла да імбрычка.

— Гэта ты, жэўжык, яе выліў!

— На‘т і не падумаў!

— Разумеецца, што ты!

— Не вадзьцеся, дзеткі — сказала цётка Пара. Янка запраўды і не падумаў выліваць ваду з імбрычка — яна проста выкіпела. Так, так! пакуль мы тут гутарылі, дзядзька Агонь падаграваў яе ды падаграваў, а вада, як ведама, ад цяпла ператвараецца ў пару — вось і ўся разгадка!

— Разумеецца! — крыкнуў Янка, — паглядзі, ты раніцай паставіла на стол мокры іспадак, а цяпер ён сухі; магчыма, ты думаеш, што я яго выцер?

— Зусім магчыма, бо ён каля агню і блізка не стаяў.

— А! зазначыла Пара,—тут, відаць, умешалася цяпло. Вада на ісподку ад цяпла ператварылася ў пару і паднялася ўгару — так, так! ад таго мяне сёньня так шмат!

— Дык дзе ты, цётка Пара? цябе зусім ня відаць, ды ты на‘т і не прагаварываеш свайго „Клёк, клёк“.

— Я проста няўгледка! так, так, бо я чараўніца, а вы што думаеце? я ўся складаюся з такіх дробненькіх вадзяных пузыркоў, каторых ніхто ня можа пабачыць на‘т праз найлепшае павялічваючая шкло, хоць у кожным пузырку

яшчэ ёсьць у сярэдзіне паветра. Бачыць гэтыя пузыркі можна толькі тады, калі іх вельмі, вельмі шмат: той, хто бачыў туман — бачыў і пузыркі Пары—увесь туман з іх складаецца, толькі яны згусьціліся. Пузыркамі—няўгледкамі напоўнена ўсё паветра, дзеля таго, што сонца, награваючы ваду ў рэках, вазёрах, морах і на'т у вільготнай зямлі заўсёгды іх змушае выпарывацца.

Прынясіце бутэльку з сьцюдзёнай вадой у цёплае памешканьне: яна ўраз-жа пакрыецца маленечкамі капелькамі вады. Гэта вада ня вышла з бутэлькі праз шкло: яна зьявілася з паветра памяшчэньня. З пузыркоў пары — калі вада нагрэецца — яна ператвараецца ў пару, а калі пара сустракаецца з якім-колечы сьцюдзёным прадметам, — яна ізноў ператвараецца ў ваду, а калі ваду вынясьці на мароз, яна ператвараецца ў лёд.

— Ці-ж не праўда, каплі вады, выступіўшыя на бутэльце, падобны на расу на лісткох? Скуль узялася раса? А вось скуль. Калі сонейка заходзіць, нагрэтая за дзень зямля пачынае астываць і да поўначы робіцца зусім сьцюдзёнай і вадзяныя пузыркі, лётаўшыя да тае пары ў паветры, ператвараюцца ў каплі, садзяцца на лісткі, траву, страху хаты. Калі гэта бывае ўвосень, ці зімой, дык пузыркі астываюць зусім, замерзаюць, як маленечкія, маленечкія лядзінкі, і замест расы, мы бачым іней.

Так, так, вада, лёд, пара — усё гэта вельмі блізкая радня.

Працяг будзе.



*У лясох, у гофах я прабываю —*
*Як паклічаш — адгукаю.*

# Працы нашых чытачоў.

## Маладое жыцьцё.

Як птушкі рвуцца ўсяк да лёту,
Пачуўшы скрыльляў моц сваіх,
Падчас пярунаў і грымотаў
Наперад ймкнуцца стаі іх,

Так мы маладыя, поўныя веры,
Што сонца ўзыйдзе і для нас,
Што адамкнуцца і нам ужо дзьверы
Й згіне цемра ўся ад нас.

Ідзём наперад з моцнай воляй
Навуку родну каб здабыць!
Наш Беларускі Край, наш родны,
Праз нас паўстане й будзе жыць.

**Покаўка**

вуч. VI аддз. Казлавецкае пав. школы.

Казлоўшчына 15 траўня 1927 г.

## Разумны цыган

(Народная казка).

Адзін цыган узяў торбу і пашоў жабраваць. Падарозе спаткаўся з зьмяём. а той кажыць: я цябе зьем! Цыган спалохаўся і стаў лічыць: дзесяць, дваццаць, трыццаць.

— Што ты лічыш—пытаецца зьмей.

— Я лічу колькі зьмяёў зьеў і ня то я, але, як прынасіў дамоў, дык і дзеці мае елі — адказаў цыган.

Вось калі я папаўся — думае зьмей, але ўсётакі хоча цыгана зьесьці.

Ідуць, гавораць паміж сабой, хто дужэйшы, а зьмей кажыць: хто крапчэй сьвісьніць, той таго зьесьць. І як сьвісьніць зьмей, дык аж ліcьця пасыпаліся з дрэва. Тады цыган кажыць: завяжы вочы, бо я як сьвісьну, дык табе могуць вочы на лоб вылезьці. Зьмей завязаў сабе вочы, а цыган узяў доўбню, ды як сьвісьніць зьмяю па лабе, дык той аж пасланіўся.

— А што, хто крапчэй сьвісьнуў? — пытаецца цыган.

— Дзякуй табе, што ты парадзіў завязаць мне вочы, а то й запраўды павылазілі-б на лоб.

— Хто выцісьніць з каменя ваду, той таго і зьесьць— кажыць цыган.

Зьмей ахвотна згадзіўся.

Цыган вынуў з торбы камок тварагу, а зьмяю даў белы камень і кажыць: цісьні!

Зьмей, як цісьнуу, камень рассыпаўся, а вады ня было, а цыган як пацісьнуў, дык аж па руках пацякло.

Зьмей баяўся цыгана, каб ён яго ня зьеў, а ўсёжткі самому хацелася зьесьці цыгана. Хоць баяліся адзін аднаго, але ішлі далей разам. Як падышлі да лесу, дык зьмей і кажыць: я нанашу дроў, а ты схадзі і прынясі тлустога быка.

Пашоў цыган па быка. Злавіў двох, зьвязаў хвосты; злавіў трэцьцяга, прывязаў да тых і так ловіць і вяжыць. Зьмей тымчасам нанасіў дроў, падпаліў і ўжо дровы канчаюць гарэць, а цыгана няма. Зьнецярпеўшыся зьмей пашоў глядзець, што робіць цыган. Убачыўшы работу цыгана, зьмей пачаў крычаць навошта яму гэтулькі быкоў, а цыган у адказ: а што я табе буду па адным насіць! Зьмей схапіў аднаго быка і панёс, а цыган ідзе сабе з заду ды пасьмеіваецца. Прынесшы быка да агню, страсануў і вытрас з скуры, а цыгану даў скуру, каб той прынёс вады.

Цыган узяў лапату і стаў капацца каля студні. Бык падпекся, а цыгана ўсё няма з вадой. Недачакаўшыся цыгана, зьмей пашоў глядзець, што той робіць.

— На што ты капаеш? — запытаўся зьмей.

— А што я табе па аднэй скуры буду ваду насіць; вазьму ўсю студню адразу — адказаў цыган.

— А цяжка ня будзе?

— Калі табе цяжка, дык вазьмі ды нясі!

Зьмей наліў вады ў скуру і панёс, а цыган узноў пасьмеіваецца.

Пад'еўшы і напіўшыся, зьмей кажыць; пойдзем глядзець хто багацейшы, той таго і зьесьць.

Перш пашлі глядзець багацтва зьмяя. Чаго, чаго там толькі ня было, толькі хіба птушынага малака.

— І гэта ўсё, а болі няма, — зьдзівіўся цыган.

— Цяпер пойдзем да мяне.

Ідуць і бачаць пан едзіць на брычцы

— Скінь пана — кажа цыган — паедзем.

— Баюся — кажа зьмей.

— Скінь, бо ў вуха дам!

Зьмей са страху як схапіў пана, дык аж калёсы затрашчэлі.

Селі яны і паехалі.

Як увідзелі цыгана цыганяты, павыбегалі пераймаць бацьку і нешта гяргечуць па свойму.

— Што яны гаворацць? — пытаецца зьмей.

— Тата едзіць, зьмяя вязець, сальца будзе, — будзем есьці.

Зьмей спужаўся і ўцек, а цыгану асталося ўсё яго багацьце.

Запісаў **Стэфусь Войцік,**
**в. Вярэньмі, Дзісьненскага пав.**



*Маю рогі, маю ногі,*
*Як багаты, так убогі*
*Ля мяне ўсе сядаюць —*
*Дык скажы — як называюць? —*

* * *

Табе, Табе, Айчына-Маці,
Нясу я дар нямудры свой,
Прымі яго ў свае абняцьці,
Бо-ж то нясе сын верны Твой.

*

Узяўся я адважна, сьмела,
Без намысьленьняў ніякіх,
За сэрцу мілае мне дзела
У „Зэранцы" прасьвячаць малых.

*

Як ня балюча й сумна гэта,
Аднак сказаць тут мушу я:
Ніхто глядзець ня хоча дзетак...
Адна Рэдактарка мая!

*

І вось цяпер, хоць добра знаю —
Слабы мой верш, пяро дрыжыць,
Аднак надзею шчыру маю
„Заранцы" сьцежку пралажыць.

*

Да вас зьвяртаюсь дарагія
Вы маладыя чытары!
Працуйце шчыра і прыждзэце
Вы новай лепшае зары.

*

„Заранка" будзе ўсьцяж прад Вамі
Начную цемру разганяць,
Галоўкі Вашы праменямі
Сваімі будзе прасьвятляць.

**Малады Дзядок.**

22 траўня 1927

# КУТОК СЬМЕХУ

## I. У школе.

**Вучыцель...** Дзеці і рыбы ня маюць голасу—гэтак кажа прыказка...

А ты, Янка, чаго хочаш?

**Янка:** Я ведаю, пане вучыцялю, чаму рыбы ня маюць голасу, бо каб яны мелі голас, дык падчас гутаркі ім лілася-б вада ў горла.

## II. Малы ласун.

Падчас вячэры малы Юзік пытаецца бабкі, навошта яна носіць акуляры.

— Бо яны павялічваюць прадметы.

— Ой, бабулька, як будзеце мне краяць пірага дык, калі ласка, зьніміце іх.

## III. Дзе справядлівасьць?

— За што, дзедка, атрымаў гэты крыж?

— Бо добра біўся, мой унучак.

— І дзе тут справядлівасьць? А як я б'юся з сябрамі, дык мяне за гэта караюць.

(Пэдаў *Малады Дзядок*).

## I. Няцема.

Маці, даючы мокрую анучку, гавора да сына: „Васілёк, схадзі на двор і павесь гэту анучку на сонцы“.

Васілёк варочаецца ў хату з анучкай і кажа: „Мама, я ня дастану, бо яно вельмі высака“.

## II. Параіў.

Мама, зацірка ў печцы бяжыць! крычыць малы Пятрук. Зачыняй хутчэй дзьверцы, каб ня уцякла!

(*Падалі дзецi засьценку Жалчобчыкі*).

# Загадкі і круцігалоўкі

## Круцігалоўка са складоў.

(*злажыла Маруся з Антокалю*).

З пададзеных ніжэй складоў злажыць 10 слоў, якіх пачатковыя літары дадуць псэўданім вядомага беларускага пісьменніка.

**Склады**: Ля-так-ка-мэд-буз-ня-ля-ар-тар-хі-са-ара-вей-ур гар-цяр-ра-ты-шу-са-ла-ама-шась-чап-тар.

**Значэньне слоў**: 1) Хвабрыка, дзе рэжуць дошкі, 2) Вядомы матэматык перад Н. Хр. 3) Каплі вады на лісьцях. 4) Той, хто гарэ. 5) Птушка (лясная). 6) Гародніна. 7) Жаночае імя. 8) Прылада ў млыне. 9) Балотная птушка. 10) інакш ахвотнік.

## Загадкі.

Улажыць з 17 сярнічкаў акно, як паказана на рысунку:



З гэтага акна адняць 5 сярнічкаў, каб асталося толькі 3 шыбкі.

(*Падалі дзеці з засьценку Жалюбчыкі*).

I.

Матка з дачкою,
Матка з дачкою,
і бабка з унучкаю
а ўсіх трое.

II.

Ляцела стая гусей, а на сустрэчу ім выляцела адна гусь і сказала: „Дзеньдобры стая гусей“.—А яны няпрычулі ды гаворацъ: „Нас ня сто гусей, а каб столькі, паўстолькі, чэцьверць таго і ты да таго, тады было-б нас сто“. Колькі гусей ляцела?

(*Падаў Янка Патаповіч з в. Рачканы*).

**Загадкі:**

1) Два млыны.
2) У каго найбольшая галава.
3) Пятушыным.

---

Добрыя разгадкі прыслалі: **„Маруся з Антокалю“, Янка Патаповіч** і **Сяргей Атрахімовіч.**

---

## Разгадкі загадак з кніжкі 3-яй.

**Воўк, каза і капуста.** Спачатку селянін перавёз на другі бераг казу, пакінуўшы ваўка з капустай; тады перавёз ваўка а казу забраў назад; пасьля перавёз капусту да ваўка, а сам вярнуўся і забраў казу.

**Круцігалоўка са складаў.**

Сабака
Лубін
Узьдзяніца
Цецярук
Ашмяна
Кандрат

**Слуцак.**